

# НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

**+ ВЕСТКІ З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА +**
**401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**

**ГОД 1** **КАСТРЫЧНІК 2001** **№ 1**


## НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

Царкоўная, ці абы-якая іншая грамада жыве пакуль яна дзейная, а каб быць ёй дзейнай трэба ейным грамадзянам, ці парахвіянам ведаць да чаго яна імкнецца, у якіх абставінах знаходзіцца й якія заданьні стаяць перад ёю, як у цэласьці, гэтак і перад кожнай асобай, што да яе належыць.

У нашай парахвіі Катэдральнага Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне гэтая веда патрэбная больш як дзе, бо парвахвія асаблівая паводле ейнага складу, ейных заданьняў і імкненьняў, ды адзіная паводле ролі ў іхным асягненьні.

Асаблівасьць нашае парахвіі ў першую чаргу ў тым, што яна частка Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што ў веры й абрадзе ня розьніцца ад іншых Праваслаўных Цэркваў, але ў ейнай дзейнасьці імкнецца выконваць Хрыстовы наказ весьціць Ягоную навуку на роднай, Богам створанай мове вернікаў ды прыяць іхным, таксама Богам дадзеным, нацыянальным асаблівасьцям.

З гэтае прычыны Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква й забароненая на нашай Бацькаўшчыне цяперашняй, варожай да ўсяго беларускага ўладай, якая ведаючы, што зможа зьнішчыць нашую мову й сьцерці нацыянальныя асаблівасьці нашага народу толькі тады, калі гэты народ ня будзе мець роднае Праваслаўнае Царквы, заганяе беларускіх праваслаўных вернікаў у павуту русыфікатарскага апарату Маскоўскае Патрыярхіі, ды перасьледуе тых, што не падпарадкоўваюцца, або супрацiўляюцца.

Сёньня нашая парахвія амаль цалком складаецца йз суродзічаў, што непасрэдна, ці пасрэдна, з прычыны гэтых перасьледаваньняў пакінуўшы родны край, знайшлі зацішак ад несправядлівасьці ды магчымасьць на бясьпечнае ад урадавае самаволі жыцьцё ў гасьціннай амэрыканскай дзяржаве.

Мала хто зь іх быў бліжэй знаёмы зь няхрысьціянскай дзейнасьцяй чужое, толькі з назову праваслаўнае, царквы на нашай Бацькаўшчыне, а яшчэ менш хто чуў праз існаваньне за мяжою роднае, запраўды праваслаўнае, Царквы ды ведаў дзе Яе шукаць.

Дык і выпадкова, найчасьцей, знайшоўшы нашую парахвію, што ёсьць часткай роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды наведваючы яе, каб памаліцца й пабыць зь землякамі, мала хто задумоўваецца над значаньнем гэтае Царквы ды парахвіі для духовага аздараўленьня Беларускага Народу й ягонага ўратаваньня ад прыгатаванае варожай уладай загубы, ды з увагі на гэта над патрэбай самую парахвію, а праз яе й усю нашую Сьвятую Царкву ўмацаваць ды захаваць, аж пакуль Яна ня вернецца на Беларусь.

Захаваць і ўмацаваць нашую парахвію неабходна, аднак, нятолькі дзеля тае высокае й далёкае мэты, але й дзеля цяперашняе карысьці самых парахвіянаў, перадусім духовае ды парою й рознага характару дапамаговае.

Духовая карысьць парахвіянам, пэўна-ж, прыходзіць перадусім з наведваньня адправаў ды з пачутае ад духавенства навукі, але на ейнае асягненьне трэба, каб гэтае наведваньне было рэгулярным, або хоць частым, ды самыя парахвіяне спрычыняліся да ўрачыстасьці адправаў увагай, сьпявалі ў хоры, або дапамагалі чысьціць царкву.

Даглядам за чысьцінёю й парададкам у царкве звычайна займаюцца сястрынствы й брацтвы, дык і ў нашай парахвіі да сястрынства павінна далучыцца якнайболей парахвіянак, а ў недалёкай будучыні павінна стварыцца й брацтва.

Жыцьцё парахвіі не абмяжоўваецца, аднак, толькі гэтым, у ёй павінна кіпець і своймая нашай багатай спадчыне культурная дзейнасьць із школкай для дзяцей, моладзявай арганізацыяй, добрым хорам на грамадзкія й нацыянальныяя ўрачыстасьці ды рэпрэзэнтацыю навонкі, бібліятэкай, а таксама лекцыямі на цікавыя для парахвіянаў тэмы ды нават вечарынамі у парахвіяльнай залі.

Зарганізаваць усё гэта, пэўна-ж, належыць да абавязкаў парахвіяльнае рады, і таму парахвіяне павінныя ставіцца з увагай да выбараў гэтае рады, прыходзячы на парахвіяльныя сходы.

Але й найлепшая ды адна парахвіяльная рада ня шмат можа зрабіць, калі яе ня будуць падтрымоўваць ды ў ейнай дзейнасьці ня будуць ёй памагаць самыя парахвіяне.

Гэтая дапамога павінна выяўляцца ў дабраахвотным выкананьні працаў, найняць на якія работнікаў парахвія ня мае грошай, а падтрыманьне парахвіяльнае дзейнасьці павінна быць забясьпечанае рэгулярнымі ахвярамі й складкамі самых парахвіянаў, ад якіх ніхто не павінен ухіляцца.

А каб усе нашыя парахвіяне і парахвіянкі ведалі, што ў парахвіі дзеецца й як кожнаму ў гэтай дзейнасьці ўзяць удзел, Парахвіяльная Рада наважыла выдаваць што пару месяцаў, ці ў патрэбе бюлетэнь пад назовам "Навіны з Роднае Сьвятыні", першы нумар якога перад Вашымі вачыма.

Спадзяемся, што ён нашым парахвіянам спадабаецца й гэтым выканае прадбачаную яму ролю.

*Парахвіяльная Рада*
*Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага*

## НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ СЬВЯТЫ

14-га (1-га ст. ст.) кастрычніка Праваслаўная Царква адзначае вялікае свята **Пакроваў**, або, як у нас кажацца, Трэйцяе Прачыстае.

Ягонае сьвяткаваньне пайшло зь дзівоснага зьяўленьня ў сярэдзіне Х-га стагодзьдзя Божае Маці ў канстанынопальскай Улахернскай царкве, дзе захоўваліся часткі Ейнага адзеньня.

Там пад раніцу ў адну зь нядзеляў, падчас усяночнае адправы сьвятому, дзеля Хрыста божавольнаму, Андрэю зьявілася абкружаная ангяламі й сьвятымі Божая Маці, што стаўшы на калені малілася за хрысьціянаў. Скончыўшы малітву Яна зьняла з галавы покрыва й на знак Ейнага заступніцтва распрацягла яго над людзьмі, што маліліся ў царкве.

Заступніцтва Божае Маці, Ейная апека й дапамога, пэўна-ж, абыймала нятолькі тых даўніх хрысьціянаў у Канстантынопалі, але й шматлікія пакаленьні нашых продкаў, за што Божая Маці была ў нашым народзе ў асаблівай пашане, а сьвята Пакроваў адзначалася вельмі пабожна й урачыста.

Калі-ж азірнемся на нашыя жыцьці, дык пабачым, што Божая Маці няспынна ахоўвае ды ўспамагае таксама й нас, хоць мы няраз не асабліва на гэта заслугоўваем.

Таму прыходзьма, Дарагія Парахвіянкі й Парахвіяне, у гэтае вялікае сьвята памаліцца да Божае Маці ў нашую родную сьвятыню, ды не забываймася на малітву ў нашай сьвятыні кожнае нядзелі.

Сьледам за Пакровамі, у сыботу, сёлета 3-га лістапада, выпадае дзень успаміну памерлых, або **Дзяды.**

Як відно, зазірнуўшы ў царкоўны каляндар, на працягу году ёсьць некалькі дзён успаміну памерлых, або дзядоў, але найбольш зь іх ушаноўваюцца й урачыста адзначаюцца "радушныя" - на "радаўніцу", у аўторак другога тыдня пасьля Вялікадня (цяпер пераважна ў нядзелю) ды "зьмітраўскія", ці "галоўныя", або яшчэ йнакш "багатыя" Дзяды - у першую, ці "зьмітраўскую" сыботу лістапада паводле новага стылю (у сыботу перад днём успаміну сьв. Зьмітра Салунскага, 26-га кастрычніка ст. ст.).

Апрача царкоўных адправаў з гэтае нагоды, у нашым народзе данядаўна трывалі яшчэ й дзе-якія звычаі ды абрады ўшаноўваньня памяці продкаў, што сягалі дахрысьціянскае пары.

Адным з гэтых звычаяў было ставіць вечарам на дзяды багаты стол із 7, 9, 11-ма ды больш стравамі, у ліку якіх павінна была быць куцьця, бліны, клёцкі, яечня, узвар і мяса.

На пачатку пачастунку заклікалі душы памерлых прыходзіць на вячэру й адкладалі для іх стравы ў асобны посуд, што заставаўся на стале да наступнае раніцы.

Нам на чужыне, нажаль, цяжка захаваць гэтыя звычаі, але нельга забыцца на нашых продкаў, на нашыя карані, што лучаць нас з нашым Народам і Бацькаўшчынай.

Таму абавязак кожнага з нас прыйсьці ў нядзелю, 4-га лістапада, у нашую родную царкву, падаць успомны лісток на ўспамін продкаў на адправе ды шчыра памаліцца за іхны супакой.

## ПАД БОЖАЙ АХОВАЙ

Гэты нумар "Навінаў" быў ужо пасланы да друку й нашая парахвія рыхтавалася да беларускага фэстывалю, што меў быць у канцы верасьня, калі ў адзінаццаты дзень таго месяца ў Нью Ёрку сталася страшэнная бяда й давялося, адлажыўшы друк і фэстываль, з трывогаю ў сэрцы апытваць, ці хто з нашых парахвіянаў і ваколічных беларусаў не загінууў, або не пацярпеў у гэтым жахлівым няшчасьці.

Неўзабавае выясьнілася, што, дзякуй Богу, усе засталіся цэлыя й непашкоджаныя, хоць некаторыя меліся быць на мейсцы бяды, або былі блізка яе амаль у самыя згубныя часіны.

Дзе-хто гэткія ратункі растлумачыць толькі звычайным шчасьцем, але людзі зь вераю ў душы ня могуць ня ўбачыць у гэтым шчасьці чудовае Божае дзейнасьці, што паспрыяла нам, усупраць спадзяваньняў, знайсьці прытулак у гасьціннай амэрыканскай краіне, а гэтым разам усьцерагла ад бяды.

Як відно з гэтага й зь іншых здарэньняў у жыцьці кожнага з нас, якія мы залічаем да шчасьця, Бог на нас не забываецца й большымі, ды меншымі чудамі празь Ягоную памяць нагадвае.

Нажаль, папраўдзе кажучы, мы далёка не заўсёды адплачваем Богу нашай памяцяй на Яго й удзячнасьцяй за Ягоныя дабрадзействы.

Нямала з нас нават лічыць, што даволі верыць у Бога, каб атрымаць збаўленьне на тым сьвеце, а на гэтым можна "жыць, як набяжыць".

Аднак, як і кожнаму гаспадару, гэтак і Найвышэйшаму Уладару, што ў небе, нельга служыць толькі словамі, а трэба заслугоўвацца й добрымі ўчынкамі ды выявамі ўдзячнасьці за Ягоныя ласкі.

Жыцьцёвыя абставіны й нястача часу, нажаль, рэдка, або й зусім не дазваляюць нам памятаць і выконваць гэты абавязак.

Таму Бог празь Ягонага Сына, нашага Збаўцы Ісуса Хрыста, стварыў установу й даў кожнаму чалавеку, паводле ягоных прыродных асаблівасьцяў, адумысловае мейсца на выяўленьне Стварцу ўдзячнасьці й зьдзейваньне добрых учынкаў - родную Сьвятую Царкву.

Для нас, праваслаўных беларусаў у Нью Ёрку й ваколіцы, гэтай установай ёсьць нашая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, а мейсцам нашая сьвятыня - Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага.

Дык не чакайма пакуль Божыя чуды - Ягоныя дабрадзействы да нас скончацца ды, не забываючыся на наш абавязак перад Богам, сьпяшайма кожную нядзелю пасьпець у пору на адправу ў нашай сьвятыні, каб шчырай малітвай выказаць Яму удзячнасьць за апеку ды ўпрасіць у Яго шчодрасьці на будучыню.

## 81-я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗМАГАНЬНЯ

27-га лістапада г.г. будуць 81-я ўгодкі Слуцкага Змаганьня супраць бальшавікоў за незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі.

З гэтае нагоды ў нядзелю, 2-га сьнежня, пасьля Сьв. Літургіі будзе адпраўленая паніхіда за супакой душаў Слуцкіх Змагароў і ўсіх загінулых за незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны Герояў.

## РАДАСНАЯ НАВІНА

У нядзелю, 30-га верасьня г.г. падчас Сьв. Літургіі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў усьвяціў а. дыякана Ігара Якуніна ў сьвятарскую годнасьць.

Духовым айцом пры ўсьвячэньні а. Ігара быў а. архімандрыт Аляксей.

А. Ігар Якунін два з паловай гады вучыўся ў Жыраўскай Духоўнай Сэмінарыі, але наважыўшы прысьвяціць сябе справе ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне роднае, ды забароненае лукашэнкавым рэжымам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, адыйшоў з сэмінарыі й, пасьля сустрэчы ўвосені 1997-га году зь Я. М. Мітрапалітам Ізяславам у Кіяве, праводзіў на Беларусі інфармацыйную працу з мэтай ўынаўленьня там нашае Царквы.

Дзеля легалізацыі гэтае працы тады-ж было створанае Беларускае Хрысьціянскае Згуртаваньне імя Сьв. Сафіі Слуцкае, дырэктарам якога стаў тады яшчэ цывільны сп. Ігар Якунін, але пад асокаю й націскам варожае ўлады яно не змагло разьвіць прадбачаную дзейнасьць і было зачыненае, а сп. Якунін ў канцы 1998-га году быў пакліканы на сьвятарскую практыку ў нашым саборы.

Выявіўшы на практыцы ягонае духоўніцкае пакліканьне й пастырскую здольнасьць сп. Якунін 14-га лістапада 1999-га году быў усьвячаны на дыякана, а 30-га верасьня г.г. а. дыякан Ігар быў ўзьняты ў сьвятарскую годнасьць і застанецца служыць у нашым саборы.

Усе мы любім урачыстасьць, якую прыгожы тэнар а. Ігара ствapae падчас адправаў і ведаем як прыемны ён у абыходжаньні зь людзьмі, ды які шчыры й ахвярны ён працаўнік на карысьць нашае парахвіі й Царквы, асабліва ў будаўніцкіх працах.

З увагі на гэта просім Бога й жадаем яму, каб пастырскі крыж, які ён узяў на сябе, было лёгка нясьці й, каб з гэтым крыжам ён дайшоў да нашае ўсіхнае мэты - узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Беларусі.

Заклікаем усіх Вас, Дарагія Парахвіянкі й Парахвіяне, далучыцца да нашае малітвы за а. Ігара ды ўсьлед нятолькі выказаць яму найлепшыя пажаданьні, але й паважаць ды падтрымоўваць яго ў цяжкой пастырскай службе наведваючы Сьв. Адправы, а таксама працуючы й даючы магчымыя ахвяры на ўтрыманьне й рост нашае парахвіі.

## НАВУЧАЙМА ДЗЯЦЕЙ НАШАЕ ВЕРЫ

Усім ведама, што дзеці гэта будучыня іхных бацькоў і іхнага роду, а разам і нашага Народу, ды нашае Царквы. Ня ўсе, нажаль, памятаюць, што без бацькоўскае веры гэтае будучыні няма ні роду, зь якога гэтыя дзеці пайшлі, ані самым дзецям.

З увагі на гэта навучыць дзяцей асноваў Праваслаўнае Веры - адзін з найважнейшых абавязкаў бацькоў і нашае Царквы.

Ў 50-х і 60-х гадох, дзякуючы эразуменьню бацькоў, пры парахвіі была школка, у якой дзеці навучаліся рэлігіі й знаёміліся з нашай спадчынай.

Пры ахвоце бацькоў гэта можна было-б зрабіць і цяпер. Таму мы заклікаем іх пацікавіцца гэтай справай ды ўстанавіць з Духавенствам і Парахвіяльнай Радай спосаб ейнага ўжыцьцяўленьня.

**ДУХАВЕНСТВА, ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА,**
**СЯСТРЫНСТВА Й ВЕРНІКІ**
**КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ**
**СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ**
**ВЫКАЗВАЮЦЬ ШЧЫРАЕ СПАЧУВАНЬНЕ**
**КІРАЎНІЧЦЫ ЦАРКОЎНАГА ХОРУ**
**СП-НІ ЛІДЗЕ КАНО**
**З ПРЫЧЫНЫ ПЕРАДЧАСНАЕ СЬМЕРЦІ**
**ЕЙНАГА СЫНА**
**АЛЯКСЕЯ**
**НЯХАЙ БУДЗЕ ЯМУ ПУХАМ**
**БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ**
**ДЫ ЗАСТАНЕЦЦА ПА ІМ ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

## СЬПЯВАЙМА БОГУ

Грамадавыя малітвы, або, інакш кажучы, царкоўныя адправы немагчымыя бязь сьпеваў. Гэтак вядзецца зь біблійных Майсеявых часоў ды праз два тысячагодзьдзі хрысьціянства аж да нашае пары.

Асабліва важныя сьпевы ў адправах Праваслаўнае Царквы, што не дазваляе інструмэнтальнае музыкі. Замест гэтае музыкі праваслаўныя адправы ўпрыгожваюць харавыя сьпевы, гармонія галасоў у выкананьні якіх стварае пачуцьцё прысутнасьці маленьнікаў перад Божым абліччам, дзе ангялы сьпяваюць неўяўныя нам харастврм песьні на Божую славу.

Амаль кожны з нас меў магчымасьць пачуць прыгожыя харавыя сьпевы ў іншых цэрквах, або паслухаць іх з дыскаў, ці касэтаў.

Быў час, калі й у нашым саборы харавое выкананьне царкоўных сьпеваў стаяла на добрым узроўні. Гады, аднак, зрабілі сваё - першае пакаленьне парахвіянаў амаль цалком адыйшло, а з даўняга хору засталіся толькі адзінкі.

На зьмену старога пакаленьня парахвіянаў цяпер прыйшло новае з апошняе хвалі эміграцыі, але ў ім сьпяваць у хоры, нажаль, мала ахвотнікаў.

Пэўна-ж, нашыя новыя эмігранты зайнятыя нялёгкім здабываньнем хлеба ў новай краіне й знайсьці час на гэтую справу цяжка, але ў гэткіх абставінах былі й іхныя папярэднікі. Сярод іх, аднак, было даволі людзей, якія памяталі, што за бясьпечнае, ды з часам і дастатнае жыцьцё ў свабоднай краіне трэба дзякаваць Богу й гэты абавязак выконвалі, не адмаўляючыся няўмецтвам сьпяваць, ці няймом голасу.

Зь іхнае ахвярнасьці яны пераадольвалі нястачы музычнае веды й практыкі, ды спраўляліся дзіваваць іхнымі сьпевамі вернікаў - гэта мы можам зрабіць і цяпер.

Таму, Дарагія Парахвіянкі й Парахвіяне, трэба каб і сярод нас знайшліся ахвочыя, што прысьвяціўшы крыху часу на падрыхтоўкі, будуць выяўляць іхнымі сьпевамі нашую ўсіхную ўдзячнасьць Богу за Ягоную ласку да нас і прасіць ў Яго гэтае ласкі для родзічаў ды для нашага Народу на Бацькаўшчыне.

Дык далучайцеся да нашага царкоўнага хору, кіраўніцтва якога абняла прафэсыянальная рэгентка сп-ня Ліда Кано й мы верым, што ў выніку працы зь ёю маленьнікі будуць захапляцца Вашымі сьпевамі ды Бог зьверне ўвагу на нашыя малітвы!

## ВІТАЕМ ТЫХ, ШТО АХРЫСЬЦІЛІСЯ Ў ХРЫСТА

У 2001-м годзе у нашым саборы дасюль было ахрышчана пяць асобаў, з гэтага дзьве ў сталым веку й трое дзяцей.

Сьвятое хрышчэньне выконваў айцец архімандрыт Аляксей Драздоўскі.

Усім ахрышчаным упрашаем Божае ласкі й апекі ў жыцьці, а бацькам жадаем, каб іхныя дзеці, уведаўшы Хрыстовую Навуку, вырасьлі ім на пацеху.

## І ТЫХ, ШТО ЗДАБЫЛІ ВЫШЭЙШУЮ АСЬВЕТУ

Вітаем сп-ну Вольгу Казак, дачку ведамых выканальнікаў беларускае песьні, й парахвіянаў нашага сабору сп-ва Алеся й Валянтыны (Пархоменка) Казакоў, што ў травені г.г. скончыла вышэйшыя студыі ў Бард Калэджы, што ў штаце Нью Ёрк.

Сп-чня Вольга вывучала музыку й міжнародныя дачыненьні й закончыла ейныя студыі выдатніцай з дыплёмам бакалаўра за дыплёмную працу "Нязмогласьць беларускіх мэдыяў скансалідаваць дэмакрацыю".

Цяпер сп-ня Вольга знайшла працу ў Нью Ёрку й спадзяемся, што не адмовіць, як і раней браць удзел у канцэртах з бацькамі, што шмат дапамагаюць нашай царкве, або й выступаць самастойна, выконваючы ейным прыгожым голасам ейныя-ж таленавітыя кампазыцыі й іншыя беларускія песьні.

Шчасьці-ж, Божа, у самастойным жыцьці!

## ДЗЯКУЕМ

Шчыра дзякуем сп. Пітэру Рэну, собсьніку фірмы Copier Technology з Trevose ў Пэнсылвэніі, што ахвяраваў нашаму сабору капіявальную машыну.

Таксама дзякуем сп. Ігару Шаламіцкаму й а. дыякану Ігару Якуніну, што прывязьлі гэтую машыну ў наш царкоўны будынак.

Яшчэ дзякуем адвакату, сп. Расьціславу Войтанку малодшаму, за ахвяраваньне нашаму сабору 31 лампадных шклянак, на якія ён выдаў 93.13 дал.

## ПРОСІМ

Просім нашых Парахвіянак і Парахвіянаў як магчыма найхутчэй заплаціць гадавыя парахвіяльныя складкі ў суме 50 даляраў ад кожнае асобы, што працуе, або мае іншую крыніцу прыбытку.

Складкі прыймае скарбнік сп. Уладзімер Цяліца, а ў выпадку ягонае адсутнасьці іншыя сябры Парахвіяльнае Рады.

Яшчэ просім тых, што падаюць успомныя лісткі на малітвы за здароўе жывых і супакой памерлых родзічаў, ня выпісваць кожны раз новых лісткоў, а знаходзіць ужо раней напісаныя, што ляжаць на стале, дзе купляюцца сьвечкі.

## ПАВЕДАМЛЯЕМ

Наступны, калядны нумар часапісу "Царкоўны Пасланец" выйдзе сёлета ў сьнежні.

У часапіс будзе ўкладзеная віншавальная картачка з каляднімі й навагоднімі прывітаньнямі ды пажаданьнямі суродзічам, прыяцелям і знаёмым ад тых, што заплоцяць 10 даляраў на выдавецкі фонд.

Каб гэткае Вашае віншаваньне было зьмешчанае на каляднай картачцы трэба, каб Вашая заплата дайшла да рэдакцыі перад канцом лістапада г.г.

## НЯ СЛОВАМ, А СПРАВАЙ

У наступным годзе міне 100 гадоў як быў пакладзены вуглавы камень пад будынак нашага сабору.

З тае пары будынак паслужыў некальківм веравызнаньням, а апошнія 45 год служыць праваслаўным беларусам.

Ад ягонае пабудовы, аднак, да 1957-га году, калі будынак у страшэнным стане купіла нашая парахвія, у ім ня было паважнага рамонту.

Нажаль, пасьля пачаткавага энтузыязму, зь якім будынак быў адразу адноўлены, у нашай грамадзе знаходзіліся людзі, што за мэту іхнае "палітычнае" дзейнасьці ставілі не змаганьне супраць ворагаў беларускае незалежнасьці, а супраць роднае Праваслаўнае Царквы й нашае парахвіі.

У выніку ўзьнятых імі закалотаў, замест пачатку ўзнаўленьня БАПЦ на Беларусі, там былі адчыненыя дзьверы для вуніі й сэктаў, а ў нашым царкоўным будынку ня было за што зрабіць патрэбныя рамонты й палепшаньні.

З Божае ласкі, аднак, да зруйнаваньня будынку не дайшло, бо на ягоны ратунак зьявілася новая хваля беларускае эміграцыі, ды ім, як архітэктурным памятнікам, зацікавіліся мяйсцовыя амэрыканцы.

Сярод новае эміграцыі, пэўна-ж, ня было багатых, каб зважыцца грашмі на рамонты, але знайшлося даволі ахвочых памагчы ў гэтай справе працаю рук.

Працу ачоліў і найбольш яе зрабіў прадстаўнік малодшага пакаленьня ранейшае эміграцыі, старшыня нашае Парахвіяльнае Рады, сп. др. Расьціслаў Гарошка, а зь ім амаль аднолькава папрацаваў і наш цяперашні сьвятар а. Ігар Якунін.

Дзякуючы іхнай ахвярнасьці й налягліваасьці была адноўленая падцаркоўная заля, кухня й туалеты, ды падкладзеныя новыя бэлькі пад падлогу ў калідоры й канцылярыі, даходзіць да канца рамонт пакою на канцылярыю й бібліятэку ды пачатая зьмена вокнаў.

Апрача ягонае працы, сп. Гарошка ахвяраваў яшчэ ў кухню усе мадэрныя шафкі й новую халадоўню.

Ні сп. Гарошка, ані а. Ігар ня справіліся-б з мноствам зробленае працы без дапамогі іншых ахвярных парахвіянаў, зь якіх із удзячнасьцяй трэба ўспомніць сп. сп. А. Тальянскага, Ул. Церахава й Ул. Бондарцава за электрыку, В. Буноса, Ю. Васілеўскага, А. Колбуна, І. Ледзяка, В. Міхноўскага, А. Падлескага, А. Сапуна, Ул. Цяліцу, Ю. Чарнышова за іншыя будаўныя працы й В. Кузьменка ды І. Шаламіцкага за парадкаваньне.

Усе гэтыя працы, не зьмянілі, нажаль, пляну нашага царкоўнага будынку, у якім няма мейсца на жыцьцё для абавязкава патрэбнага наглядчыка.

З увагі на гэта Парахвіяльная Рада вядзе гутаркі з архітэктам, каб надбудаваць яшчэ два паверхі над прыбудоўкай з правага боку царквы ды пачала збор ахвяраў на гэтую мэту.

Просім усіх вернікаў нашае парахвіі й усіх беларусаў уважыць патрэбу палепшаньня адзінага беларускага царкоўнага-грамадзкага асяродка ў Нью Ёрку й шчодра далажыцца да гэтае справы!

**НАВЕДВАЙЦЕ Й ЧЫТАЙЦЕ НАШЫЯ БАЛОНКІ НА ІНТЭРНЭЦЕ www.belaoc.com**